Бібліятэчка часопісу «Дзеяслоў»

Андрэй Хадановіч

# школа травы

Кніга вершаў

Мінск
«Кнігазбор»
2019

УДК 821.161.1
ББК 84(4Беи)
Х14

*Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў».*
*Выпуск 27.*
*Заснаваная ў 2006 годзе.*

**Хадановіч, А.**
Х14 Школа травы : кніга вершаў / Андрэй Хадановіч. — Мінск : Кнігазбор, 2019. — 84 с. — (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 27).
ISBN 978-985-7227-07-5.

У кнігу ўвайшлі новыя тэксты Андрэя Хадановіча, напісаныя ў 2017-2019 гг. Зборнік складаецца з 55 вершаў, а таксама – на правах эпіграфаў да кожнага раздзела – пяці перакладаў важных для кнігі паэтычных твораў. Аўтар вандруе ў прасторы і блукае ў часе, сумоўнічае з класікай і лістуецца са Святым Мікалаем, эксперыментуе ў інтымнай і фліртуе з грамадзянскай лірыкай, архівуе ўспаміны і калекцыянуе пахі травы.

**УДК 821.161.1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7227-07-5**

# 1. ДЭТАЛІ

* * *

*Бяссонніца. Гамэр. Шум ветразяў тугі.*
*Я ў спісе караблёў дабраўся да паловы:*
*Той доўгі вывадак, той вырай шматгаловы,*
*Што ўзняўся, кінуўшы Элады берагі.*

*Як жураўліны клін за небакрай чужы, –*
*Галовы ўладароў у срэбры боскай пены, –*
*Куды вы плывяце? Каб не было Алены,*
*Што Троя вам адна, ахейскія мужы.*

*І мора, і Гамэр – усё жыве любоўю.*
*Каго з іх слухаць мне? І вось Гамэр маўчыць.*
*І мора чорнае вяшчуе і шуміць,*
*І цяжка плёскае ля самага ўзгалоўя.*

Восіп Мандэльштам (з расійскай)

## ЛІЧЫЛКА

Ноч. Бяссонніца. Мора.
Лічым авечкі-хвалі.
Першая змыла ўчора
замкі, што мы будавалі.

След мой сцерла другая,
трэцяя – твой. За трыма –
пятая набягае,
бо чацвёртай няма.

Шостая дасць у плечы,
сёмая лясне па твары,
восьмая возьме рэчы,
крыжык і акуляры.

А дзявятая прыйдзе –
у сёмае неба скрадзе.
Сёння плавалі ў Н*і*дзе.
Заўтра ў Нідз*е*.

* * *

Падае жнівень з метэарытных ног.
Спёку і лівень шле самагонны бог.
Хопіць маломy зорнага крыгалому.
Схопішся й за салому, тонучы ў снох.

Час і надвор’е сёння твае зусім.
Нібы сузор’е, на тарзанцы вісім.
Месяц над лесам патанае ў святле сам,
плывучы ўсходнім крэсам нашых летаў і зім.

Зоры, як рыбы ў возеры між трысця.
З кожнае хібы цешышся, як дзіця.
Столькі відзежаў плавае без адзежаў.
Лета без межаў. Межы – толькі ў жыцця.

* * *

Пацягнуўшы за шпільку, выцягваеш вецер у косах,
цёплы травень, начныя купанні і мокры ручнік,
салаўіную песню ўвушшу і маланку ў нябёсах,
твой заплечнік, што з ёй разам знік, і квіток на цягнік.

Пацягнуўшы за дым, маеш восень і вогнішча з хорам,
дагарэлае лісце і клёкат, і згублены клёк.
За аскепак бурштыну – апошні світанак над морам.
За крыло матылька не цягні, там адно матылёк.

## *ЛАСТАЎКІ*

Ластаўкі неба цыруюць аблокамі,
ластаўкі неба малююць алоўкамі.

Вецер, лагодна кранаючы ласцікам,
правіць малюнкі аблокам і ластаўкам.

Неба плыве з Міхалішак у Хойнікі.
Ластаўкі з небам гуляюць у хованкі.

Сочыш уважліва... толькі дарма...
за чатырма... за дзвюма... за няма...

* * *

Прызначыш мне стрэлку ў пясочным гадзінніку – і
схаваныя колісь за шклом адкапаем сакрэты.
Пясочніца часу захлюпае ў два ручаі:
адзін пацячэ на той бераг, а іншы – на гэты.

Твае гарады ні адзін не скарыў маладзён,
ды крочу да замкаў і вежаў з чырвоным вядзерцам,
а ў гэтым вядзерцы – пясочнае печыва дзён,
якое аддам табе разам з рукою і сэрцам.

Ты ў маміных кліпсах, трыпутнік да локця прыліп.
І я, трохгадовы палоннік вачэй тваіх хітрых,
адкрыў: канца свету не будзе – не выбух, а кліп,
і цітры ў паветры, і крочым да зораў па цітрах.

* * *

З неба падаюць абрыкосы.
Вецер блытае сену косы.
Кот за коткай бегае крос.
З абарванцам б'ецца матрос.

Хлопцы рыбу ловяць таптухай.
Брат стрыечны ходзіць з татухай.
Першакласнік разбіў мапед,
Але смерць пайшла на абед.

Крапіва кусае за лыткі.
Сон – глыбокі, і Сож – не плыткі.
Ты суседцы: "Пайшлі ў траву".
А яна: "Не дуры галаву".

Абрыкосы падаюць з неба.
Усё на свеце ідзе як трэба.
– Адчапіся!
                    – Чаму?
                                  – Таму...
Два па дваццаць гадоў таму.

## *ЛЕТА: ВЯСКОВЫ РАМАНС*

Апошнія тыдні кароткага лета плывуць нетаропка.
То певень гарлае ўрачыстыя гімны, то радыёкропка.
Вялікія слівы не ўлезуць ніколі ў маленечкі кошык.
А з раніцы – водар то скошаных кветак, то вымытых дошак.

За шыбай насупраць суседка-гарэза паказвае дулі,
а ў лепшым настроі штось іншае можа, цішком ад матулі...
Усмешка красуні была хітраватай: не хочаш – не сватай.
Ад ейнага спеву закладвала вушы салодкаю ватай.

І ты патануў бы, ды цягне з балота сябрук і настаўнік:
“Кахаюць прыдуркі, а ты лепей жабу закінь ёй у станік.
Рамантыка – гэта не соплі і буські. (За вуснамі – іклы.)
Хадзем, там за плотам зусім без аховы стаяць матацыклы.

Маторная лодка амаль без нагляду, а жнівень кароткі...
Пара ў тваім веку рабіцца дарослым...
Чакай, клічуць продкі...”
І ты ўжо сам-насам з адважнай суседкай, і сорам на твары,
і жабку не кінеш, бо станік адсутны, і лета ў разгары.

І пахне грыбамі, і колецца сена, і плёскаюць вёслы.
І ты засынаеш шчаслівы, а потым прачнешся дарослы,
бо ў сне яна мае пякельныя рожкі і крылцы анёла...
Ды ўсе перакосы і ўхілы паправіць сярэдняя школа.

Усё прамінае – каманда юнацтва цябе прадынаміць,
ды ўсё застанецца – і кожную згадку чытаеш напамяць.
Зязюля кувае і радыёкропка да ночы спявае,
сябрук на свабодзе й малая суседка дагэтуль жывая.

* * *

Ветразі й вітражы.
Сонца і вецер вые.
Мачты нібы крыжы.
Мёртвыя як жывыя.

Зорка, а лепей дзве,
блізкая і чужая.
П’яніца ў галаве
ветах з поўняй мяшае.

Рухаецца зямля
з Полацка ў Сан-Францыска.
Плавае немаўля,
дзе даплыве калыска.

Літары на пяску,
як любоўная хімія.
Двойчы ўвайсці ў раку
й выйсці з літар сухімі.

З ветразямі крыжоў.
З вітражамі на мачце.
Выбачце, хто дайшоў.
Хто не дайшоў, прабачце.

* * *

Першае слова з’ела карова,
сорам – другое скубе,
трэцім Марыська, твая чарнаброва,
дражніць малога цябе.

Хто анямеў ды схаваўся за пугу
ад языкастай чумы?
Вечар-пастух гнаў з нябеснага лугу
рыжых цялушак, нямы.

Кідаеш словы абразаю колкай –
дзеўчыне, лёсу, жыццю:
толькі хацеў абазваць рыжай цёлкай –
рыжая цёлка цю-цю...

Што дагарэла, вяртаецца з прыску –
ну, чарнаброва, чакай!..
Хто гэта й сёння малую Марыську
дражніць, здаровы бугай?

Не заракайся ад гэтага статку,
гэтай дражнілкі, каўбой!
Слова было, ёсць і будзе спачатку.
Нават калі не з табой.

## АДЫСЕЯ

Google, скажы пра багатадазнаных герояў дзяцінства,
здольных на мужнасць і мудрасць, і подзвігі рэдкага свінства.
Словаў у кепскім парадку на вецер праверany сейбіт,
дзьмухнуўшы дыму айчыны, старэнькі пачуў Адысей біт.

Дзе адмарожвала спёка і кроў ледзяная кіпела,
памяць! канатнай дарогай вязі ў найвышэйшае пекла,
жарсці тваёй фаер-шоу і рэўнасці танцы на вугалі,
столькі ўсяго, што здараецца толькі ў дзяцінстве і ў гугле.

Першая хваля кахання – і ты адплываеш у пакоры:
бібліятэк яе рэкі, азёраў яе кнігазборы.
Падараваць ёй усё – і яе частавацца дарамі,
і ў надзіманай байдарцы заснуць, як на меху з вятрамі.

Помніш купанні ўначы? Як на бераг выходзіць князёўна?
Жартаўнікі твае плаўкі сцягнулі, а ёй не ўсё роўна.
Нават знаёміць вядзе з татам-князем і мамай-княгіняй.
Ты ж валацуга вядомы: збяжыш, а дзяўчына загіне.

З добрых намераў дарога прыводзіць на выспу да німфы,
дзе разбіваюцца пляшкі і пысы, і сэрцы, і німбы.
Шклянка (а ў ёй маладое здароўе) была вельмі крохкай:
сёння амаль чалавек, заўтра ў брудзе качайся і рохкай.

Помніш, на Ӯсходніх кладах, як прыносяць суворыя мальцы
мёртвым ахвяры і ў соль з памідорамі тыкаюць пальцы?
П’юць за сяброў, камандзіраў, зялёных яшчэ навабранцаў.
Паляць афганку – і ўночы з’яўляюцца цені афганцаў.

Сплаў на п’яным караблі, што забыў аб прызначаным порце.
Катамараны Харона (з чыёй датай смерці на борце?).
Шторм пражаваў твае судна ды сплёўвае мачты, шпангоўты.
Дурань, каму ты паверыў, што некалі трапіш дамоў ты?

Ветразі-хмары, пунсовыя водціскі пальцаў на ўсходзе.
Дама з сабачкам у форме памежнай ідзе па праходзе.
Гучны Гамэраў гекзаметр, гордзіеў голас ягоны:
“Поезд далей не ідзе, калі ласка, пакіньце вагоны!”

## ***ДЭТАЛІ***

Калі, зачапіўшы, казалі не “упс”, а “прабачце”,
чыталі кніжкі з паперы й наогул чыталі,
паэт быў піратам, і сцяг матляла на мачце.
Не помню, якой краіны, – гэта дэталі.

Калі пад вышэйшым небам раслі вышэйшыя дрэвы,
ты быў такім бескарысным, што ўсе карысталі,
і, пагасіўшы святло, усе дзевы казалі: “Дзе вы?”
Не помню, якія дзевы, – гэта дэталі.

І мора віна лілося ў глотку твайго рамантызму,
і ты выпіваў усё, герой з граніту і сталі...
А сёння дэталі вывальваюцца з арганізму.
Не помню, якія дэталі, – гэта дэталі.

## 2. НОЧ МУЗЕЯЎ

* * *

*На голай паўночнай вяршыні*
*Самотны кедр між ільдзін –*
*Заснуў, агорнуты снегам,*
*Як белай коўдрай, адзін.*

*І сніць далёкую пальму –*
*Ва ўсходнім краі яна*
*Між сонцам распаленых скалаў*
*Маўкліва сумуе, адна.*

Генрых Гайнэ (з нямецкай)

* * *

У самай заходняй з усіх Каліфорній,
дзе паліцца добра і выпіць камфортней,
ёсць велічны гай эўкаліптаў высозных.
(Гіганты між дрэў, калі мераць у соснах.)

І кожнаму сніцца: на Ўсходзе далёка
засмучаным ліпам без іх адзінока,
бо мрояць аб тых эўкаліптах,
якія не могуць без ліп тых.

Платан платанічна ўлюбіўся ў таполю,
а явар каліну раўнуе да болю.
Кахаюць – і ў тым паэтычная круць іх! –
мацней і чысцей (калі мераць у людзях).

## *ГОРАД, ШТО НІКОЛІ НЕ СПІЦЬ*

***(бо так і не адаптаваўся да мясцовага часу)***

Гэты горад сапраўды не спіць ніколі,
а таму й не прачынаецца зусім,
засыпаючы пялёсткамі магнолій
тых, хто зранку не прачнуўся разам з ім.

Гэты горад разгайдае кожны талент,
гэты горад ператравіць кожны кіч.
Закалыша вас травой на Коні-Айленд
і абудзіць пад сталом на Брайтан-Біч.

Штось кашэрнае гатуецца з бараніны.
Ў караблі гуляюць авеню і стрыты:
25-ая і Мэдысан – паранены,
26-ая і Лексінгтан – забіты.

Кіламетры тут расцягваюцца ў мілі –
і жывеш на трэць даўжэй, калі паверыць.
Тут на вуліцах за вечар напалілі
гэтак моцна, што не хочацца праветрыць...

Тут рок-зорка выступае ў пераходзе,
і кладзеш даляр падземнаму шаману.
Бачыш выспу – і ўсміхаешся Свабодзе,
і яна табе ўсміхаецца з туману.

Пройдзе ўсё, ды толькі тут – з табою побач...
І выходзіць твая муза на Брадвей,
брыдучы па ім апоўначы на поўнач,
з кожным крокам забірае ўсё лявей.

Каб гудзела памяць песняю няспыннай,
а калі ў чым перабольшу ці зману –
нібы пальцы, што скрыжоўваюць за спінай,
яго вуліцы скрыжую з авеню.

## *НОЧ МУЗЕЯЎ: СТАРАЯ ГРУЗІНСКАЯ ПЕСНЯ*

Апушчу галаву на стол – і прачнуся ў музеі,
а наўкол – жывыя карціны – усё, што прысню.
Белы голуб Пікаса глядзіць на мяне і шызее:
трэці раз прачынаюся тут, і ўсё ўпершыню.

З глыбіні інтэрнэту выйдзе Nickname Пірасмані,
а за ім наўздагон сімулякры сабак – Google dogs.
Элегантны цыган папросіць маіх money-money
на цыгары, цыліндр, цынандалі ды імпартны кокс.

Гэты ведае ўсе таямніцы вершаў і прозы,
адвязе на дабітай маршрутцы ў к/ф "Міміно",
ператворыць віно – у песню, а песню – у слёзы,
слёзы ў дождж, і гэтак далей: вінаград, віно...

Расхістае ўначы ўвесь горад, са мной уключна,
бо жывая вада Тбілісі – надта жывая.
Мой кіроўца ў заторах слухае рэп гэтак гучна,
што народ на прыпынках танчыць і падпявае.

Гандляры-мужчыны мераюцца чурчхелай,
вабяць самай вялікай, прыгожай, смачнай і спелай,
а красуня-кухарка толькі смяецца з мача,
разумеючы больш, дзе горача і дзе смачна.

“Вельмі пасуе сукенка”, – кажу ёй. “Пытанне цела, –
кажа какетка. – Я для яе патаўсцела”.
“Добры жарт”, – кажу. “А гэта – пытанне душы.
Бачу, што пішаш вершы. Бяры – і пішы...”

Неймаверны горад сышоў са сваіх графіці
і вядзе ў ноч музеяў, бо кожная ноч – музей:
“Нарадзіўся – расці вялікі, мой неафіце,
адрывайся, спявай і танчы, не цверазей”.

Льецца літрамі лірыка й літары лёгкага флірту
раскруцілі сляпым катом і кажуць: “Цяплей! Цяплей!
Цалавацца – толькі ў зацяжку, кахаць – без фільтра,
каб аднойчы памерці ад шчасця – і жыць далей”.

* * *

Вечар такі харошы,
п'яны і малады.
Добра, што час – не грошы.
Дрэнна, што не заўжды.

Божанька сердабольны
ў небе змяніў дызайн.
Добра, калі ты вольны.
Дрэнна, калі дэдлайн.

Ружавеюць каштаны,
цвелячы і святых.
Добра, што б'юць фантаны.
Дрэнна, калі пад дых.

Шчэццю парос дашчэнту,
ды ідзеш на бульвар.
Добра, калі студэнты
не пазнаюць у твар.

Думкі – звышгукавое,
глупанямое кіно.
Добра, што без канвою,
а дэдлайны – лайно.

Фільм завершыцца файна,
бо ў канцы хэпі-верш.
І да свайго дэдлайну
ты яшчэ пажывеш.

* * *

Туды, дзе выдмы ведаеш свае,
уцёк за дзве мяжы,
хоць верасень між хмараў гнёзды ўе,
выседжвае дажджы.

Уцёк, бо ўсё цячэ, як з пораў пот,
як з пораў года – дні...
А ў порце працякае бот, як бот
у пірса на ступні.

Дзе сонца пастаіць на скразняку
і знікне за маяк,
а ты ад скразняку на маяку
хавайся за каньяк.

Дзе сто разоў – за ветрам, нібы сцяг
на п'яным караблі,
а мора, даўшы хваляй па грудзях,
вяртала да зямлі.

А потым, як дагэтуль сто разоў,
вытрэсваў ледзь жывы
ваду з вушэй, пясчынкі з валасоў
і вецер з галавы.

## *РАДЫЁ "САМОТА"*

Восень гоніць па ходніках муміі кветак.
У гербарыі бронхаў – засушаны свіст.
“Сэрца ірвецца ў горы”, – плача падлетак.
“Сэрца ірвецца ў горы”, – мроіць турыст.

Алкаголь заядаецца шакаладам –
і настрой матляецца матылём.
Карабель знікае за даляглядам.
Далягляд знікае за караблём.

Карабель... – і так да канца лічылкі,
а на дне бяссоння – бяздонне сну.
Напісаць “свабода”. Выправіць тры памылкі.
Атрымаць “самоту”. Яе адну.

## *ЦЯГНІК "МІЦКЕВІЧ"*

Сёння ў дарозе любяць мяне, як ніколі:
першы раз кантралёр правярае білет у Аполі,
а ў Чанстахове ўжо – Матка Боска! – зацяты
дзед у фуражцы квіточак мой просіць – у пяты.

Пальцы ажно свярбяць пакруціць ля скроні,
ды кантралёр тлумачыць пільнасць сваю:
"Вы ж на кожным чытаеце перагоне
новую кніжку. Я і не пазнаю".

* * *

Ён фліртуе, яна фільтруе.
Сэрца помніць гульню старую.

Ён спявае – гучней, цішэй,
а яна – здымае з вушэй.

Ён шаманіць і заклінае,
толькі дзеўчына не дурная.

Ён вось-вось пакліча дадому,
а яна спашлецца на стому.

Ён пра лёс і дзве шчоткі зубныя.
(Так праўдзіва, аж зуб заные.)

Пра адзін на дваіх плэйліст:
Озі Осбарн і Ферэнц Ліст.

Пра раманы (няўжо чытае?)
і аб тым, што яна крутая.

Нешта ў рыфму. Яна: “Не веру.
Пашкадуй мяне і паперу”.

Ён пачне нервавацца, злавацца,
бы й напраўду чакаў авацый.

А яна: “Цішэй, не псіхуй!
Вось жа трапіўся... абалдуй.

Не палохай грымасай грознай.
На пакрыўджаных возяць markознае.

Пажартуеш, а ён раве.
Колькі шчотак, гаворыш? Дзве?

Сам глядзеў, нібы на святую...”
Ён фільтруе, яна фліртуе.

* * *

Старая скрып*а*чка ў парку зайграла Догу.
Пенсіянер-кампазітар гаворыць догу:
“Паслухай, як файна! А памятаеш часы,
калі вось такія смаркачкі не ведалі вечнай красы?”

А дог у адказ: “Хто ведае, чым ёсць краса?
Ты рос на “Сабачым вальсе”, а гэта папса.
Мне хутка паўгода, я слухаю Баха, прабач...”
Скрыпачка ўлезла ў размову: “Сам ты смаркач!”

І ўсё, што адбудзецца потым, адвеку вядома.
Героі пасварацца й вернуцца разам дадому.
Іх дог падзякуе Баху, што стрэліся гаспадары.
Анёлы зайграюць “Сабачы вальс” угары.

## ***ПЕРАХОД***

Яна прадае ў пераходзе падземныя кветкі.
Ён грае насупраць песні, часцей чужыя.
Яна ні разу не кінула ні манеткі,
а сёння адчула спазм у раёне шыі:

“Хлопча, песня – агонь! Раву, як дурніца,
над нескладанай мелодыяй з простым вершам.
Слухай, вазьмі яшчэ ў сваю навальніцу!
Помніш, як мы запалілі ў 71-м?”

Яна старэйшая з выгляду ў тры разы.
А ён і не надта прыгожы, зусім падлетак.
Заўжды паспявала націснуць на тармазы,
а сёння не паспявае і кажа гэтак:

“Хлопча, песня – агонь! Ты чуў сто разоў сам,
я ж закахалася з першым акордам узятым.
Як ты паляну накрыў журавінавым соўсам
дзеля мяне ў Нью-Ёрку ў 80-м!”

Раптам: “Што за халера, не пазнаю.
Дзе ты мне граў яе, хлопча? І што пасля я?”
Ён: “Я спяваю жывога”.
“Чыю?”
“Маю”.
Памаўчала і кажа: “Гэтая не чапляе”.

Ён кажа: “Песня – агонь, вунь дыміцца грыф мой.
Потым, калі згадаеш, будзеш натхняцца тым,
як запальвала зоркі ад музыкі з рыфмай
у пераходзе ў 2019-м!”

“Стоп. Я сыходжу”. Пайшла. Ніколі не збочвае.
Іншаму панясе букет міражоў.
Гарадская вар’ятка, а памяць дзявочая, –
пойдзе толькі за тым, хто за ёй сышоў.

* * *

У сёмае неба, нібы аблачынкі,
плывуць параходы, салют!
На трэцяй планеце гадаюць мужчынкі:
тхор, ластаўка, кіт ці вярблюд?

Вярблюд параходы цыруе канатам,
бо пойдуць іначай на дно,
і так віртуозна, што нават фанатам
ніводнага шва не відно.

Іголка гарэзіць, як ластаўка-птушка,
сшывае нябёсы й зямлю,
а тхор без аркестра пяе ёй на вушка,
даказвае, што не вярблю...

Ён просіць іголку: “Хоць песеньку вышый,
хоць просценькі-просценькі хіт,
бо трэба спяваць, усё вышай і вышай,
таксоўшчыку бла-бла-блакіт”.

А дзесьці над імі – Вялікая Тайна,
бо творцы нябесных радзім
не ведаюць самі, ці будзе там файна,
куды ўсе мы разам ляцім...

## 3. СКРЫПКА

*Паслухайце!*
*Калі зоркі запальваюць –*
*значыць – гэта камусьці патрэбна?*
*Значыць – камусьці важна, каб зоркі былі?*
*Значыць – хтось называе тыя плявочкі*
*срэбнымі?*
*І праз завеі пылу пайднёвай зямлі*
*ірвецца –*
*баіцца спазніцца –*
*да бога,*
*плача,*
*цалуе яму жылістыя рукі,*
*просіць абавязкова –*
*хоць зорку для неба сляпога! –*
*клянецца –*
*не вынесе гэтай бяззорнай мукі!*
*А потым*
*ходзіць трывожна,*
*але трываючы вусціш.*
*Некаму кажа:*
*"Цяпер не страшна?*
*Не горка?*
*Болей святла?"*
*Паслухайце!*
*Калі зоркі запальваюць –*
*значыць –*
*гэта патрэбна камусьці ж?*
*Значыць – яно неабходна,*
*каб кожны вечар*
*над дахамі*
*хоць бы адзіная зорка была?!*

Уладзімір Маякоўскі (з расійскай)

## МЕСЯЦ

Яму казалі: “Ты свеціш адлюстраваным святлом,
што не пакажа дарогі і ў холад не абагрэе.
Дзіўны народ збіраецца перад тваім жытлом –
то дэкадэнты-геі, то маскалі-габрэі”.

А ў месяцовым праменні столькі цікавых падзей.
Вунь спадніца клятчастая схільнасць мае да скочу,
лезе ў бутэльку... а з нетраў выходзіць полацкі чарадзей
ды з маладымі ваўкамі песні вые дасхочу.

Ноч у доме быцця ўсім сонцам пакажа язык.
Вунь сарматкі купаюцца ў забароненых ведах.
Ведаюць, дзе і навошта родзіцца маладзік
і ці пакінуў спадчыну мальцу нябожчык-ветах.

Вунь вандроўная зорка з мудрацамі трыма.
Першую лёгка пазнаць па зорных замашках.
Зорка лажае, як бог. Кажа: “Мяне няма”.
А мудрацы-рэдактары: “Лепей казаць *нямашака*”.

То пакаленне дворнікаў лётае на мятле,
то ашалелыя Шалі гойсаюць, як арэлі.
А яшчэ прыгажуні ў месяцовым святле
плавалі аж да раніцы й нават крыху загарэлі.

* * *

Калі неба чыркае знічкамі,
хтось хавае іх ад дзяцей.
Аб'явілі шкоднымі звычкамі
алкаголь, тытунь, ямб-харэй.

– Непатрэбны, бы кропка з коскаю,
старамодны, як пан сахі...
– Ці паэзія мая коўзкая?
Ці мой смех занадта сухі?

Нетактоўны, як нож з цыбуляю.
Але хтось насоўку бярэ.
Значыць, гэта камусьці муляе...
Значыць, гэта камусьці трэ...

* * *

Хутка дождж – і неба на ўсе маланкі
зашпіляецца па чарзе,
і п’яніць залева з першае шклянкі,
і дарогу мне развязе.

Высыхаюць кроплі – і дзень шчаслівы
замаўляе: “Песні пяі!”,
і гучаць шпачыныя пералівы,
і ўстаюць з калень салаўі.

Гэты свет не зломкі пальцам рабілі,
не глухі стары дырыжор.
Дык нашто захлынаемся ў кніжным пыле,
калі ўсім нам
пахне чабор?

## *СКРЫПКА*

Скрыпка трохі нервова
дрэмле ў калысцы-зыбцы.
Сняцца вуліцы Львова,
дахі Берліну скрыпцы.

Сніцца кава па-венску,
сніцца гарэлка па-менску
ў падваротні знянацку,
пуга й пернік па-брацку.

Ля музычнае школы
ўзімку коўзанка й горка.
Руль, педалі і колы.
Крыкі “Дамоў!” і “Горка!”.

Сняцца плошчы і рынкі,
сняцца гарышчы й лёхі,
барабаны й катрынкі,
к*а*ты і скамарохі.

Сняцца масты і паромы,
радасці і навалы,
карнавалы, пагромы
й новыя карнавалы.

Пісталеты і маскі.
Пах карыды й карыцы.
Словы старое казкі
аб скрыпачы і скрыпцы.

* * *

Калі ўглядаешся ў люстэрка,
яно ўглядаецца ў цябе –
і прабягае вадамерка
па хвалях-зморшчынах на лбе.

Выява робіцца крывою,
адбітак – дзіўны і не твой,
і вас у люстры больш, чым двое,
і пахне скошанай травою,
а потым іншаю травой.

І падымае валасы вам,
бо чуеш кожным валаском,
як побач, бы Арсеній з сынам,
ідзе бяссмерце з касяком.

## ***РОБАТ***

Вершаскладальнік-робат у музеі
працуе для дарослых і дзяцей.
Стварае на замову й не барзее
па вершы на хвіліну – і часцей.

Не патрабуе прэмій, нават лайкаў,
на злосны здзек адказвае дабром:
замовяць штось на “Х” – напіша хайку,
папросяць штось на “Б” – напіша байку,
націснуць “П” – напіша паліндром.

Змайструе віншаванне – *Merry Christmas!* –
з каляднай зоркай і зямлёй святой...
А што ў цябе, лайдак? Застой і крызіс,
застой і крызіс, крызіс і застой!

Жывы паэт гарэлку п’е і паліць,
радок накрэмзаў – плача, як дзіця.
І школьнікам, якім вучыць на памяць,
высакародна не псуе жыцця.

*Варшава, музей Каперніка, 2019*

* * *

Верш патрабуе самааддачы,
джаліць, казыча, на сэрцы скрабе,
робіць у пошце самаатачы
і рассылае кавалкі сябе.

Хтосьці ў адказ – фота мамы і таты,
хтось пераломү здымак дашле,
нехта пасылку ў форме цытаты,
полымя ў печы, хлеб на стале.

Стане ў табе (у сабе) калупацца,
потым аблае, аблайкае ўслых –
модным эмодзі сярэдняга пальца,
смайлаў вялікіх і сэрцаў малых.

* * *

Празорцы, магі, вершакаралі.
Вяшчуе вечнасць мова незямная.
А ўсё, што блізка грэшнае зямлі,
ім, дасканалым, трохі замінае.

Пабожна, нібы ў неба пішуць ліст,
выводзяць паэтычную крывую,
як ля шэдэўра ўражаны турыст:
"Не замінайце, я фатаграфую! –

нервуюся ў музейнай гамане,
гляджу ў смартфон з недапісаным вершам,
чакаючы, пакуль народ міне..."
А людзі і былі найцікавейшым.

## ЛІРЫЧНАЯ РАЗМОВА

– Добры вечар, Ваша прывабнасць,
муза чароўная!
– Прывітанне, Ваша нязграбнасць,
страфа – няроўная.

– Я чакаў Вас, Ваша юнацтва,
багіня тайны!
– Меней словаў, Ваша лайдацтва,
як там дэдлайны?

– Напаіце, Ваша какецтва,
з крыніцаў цуду!
– Дарам, Вашае дармаедства,
паіць не буду.

– А давайце, Ваша бязмежнасць,
разам да зор!
– Не спяшайцеся, Ваша смешнасць,
спачатку твор.

– На вяршынях, Ваша бязлюднасць,
ніхто да нас!
– Шмат паўзе вас, Ваша зануднасць,
на мой Парнас.

– Пойдзем разам, Ваша багемнасць,
ва ўладу музыкі!
– Ох, тармозіць Ваша някемнасць...
Расшпілім гузікі...

– Зварухнулася, што драмала,
звіняць катрэны!
– Я пайшла: вас шмат, часу мала.
А верш нядрэнны.

* * *

Музычная шкатулка малахітавая, не малахітовая.
Ахоўная шпакоўня вашым творам, птушаняты штогадовыя.
Ад ветру, завірухі і папсы хутчэй хавайцеся ў шкатулку,
што песенькам і вершыкам ніколі не адмовіць у прытулку.

Дзе за крыніцу ведаў б'юцца ў сквэрыку акторы і прарокі,
уся ў душэўных ранах – робіць музыкай дакоры і папрокі.
Зняверца можа ўкласці пальцы, кінуўшы манетку ў яе дзірку,
і птушка завадная чык-чырык каля дзяржаўнага цырк-цырку.

А назавуць музычным аўтаматам –
расплачацца манетай самай рэдкай,
пра хлопчыка з трафейным аўтаматам
і дзеўчыну з айчыннай цыгарэткай.

Тлумачу папулярней, паэтычная вясна для тых, што ў танку.
Так горка – абрагочашся, так весела – рыдаеш да світанку.
На скрыжаванні ночы й дня, на стаметроўцы добрага і злога –
амаль анёл,
святая без пяці хвілін,
мадонна без малога...

Шпакі павырасталі. Чуеш водар касякоў каля шпакоўні.
Курортныя балады і рамансы чым смяротней, тым шыкоўней
на трыццаць трэцяй хуткасці лятуць – і сэрца музыка спыніла
паміж пяскоў з егіпецкаю джэзваю, над хвалямі вінілу.

А назавуць музычным аўтаматам
аматары смялейшых амплітуд –
адкажа ім, што музыка сама там
жыве, а слухачы ўміраюць тут.

* * *

Дарэмная штука ў жыцці пацана
ганяцца за ёю ды мерацца славаю.
Ты ходзіш пад стол пехатой, а яна –
плавае.

Ты плаваеш, бо праваліўся пад лёд,
калі пакатацца пайшоў замест школы.
Яна, пасадзіўшы на лёд самалёт,
ратуе палярнікаў і ледаколы.

Чытаць і пісаць навучыўся ледзь-ледзь,
прычэсваеш першыя вершы калматыя.
Яна ж табе кажа: “Пара пасталець!”
і хітра смяецца з тваёй хрэстаматыі.

Скажы “Куляшоў”, а ў адказ – шоу куль,
там чэрап і косткі, там надпіс: “Не ўлазьце!”
Ды чуючы стуль “прывітанне” й “пакуль”,
смяяўся ад злосці і плакаў ад шчасця.

І хай за пісьменнасць адны “траякі”,
і нават па музыцы двойкі тры чвэрці, –
смяешся і плачаш, і правіш радкі,
шліфуеш памеры, каб ёй не памерці.

## 4. ДРЫГВА

*Калі нацысты прыйшлі па камуністаў,*
*я маўчаў –*
*я не быў камуністам.*

*Калі яны забіралі сацыял-дэмакратаў,*
*я маўчаў –*
*я не быў сацыял-дэмакратам.*

*Калі яны прыйшлі па сяброў прафсаюза,*
*я маўчаў –*
*я не быў прафсаюзнікам.*

*Калі яны прыйшлі па габрэяў,*
*я не пратэставаў –*
*я не быў габрэем.*

*А калі прыйшлі па мяне,*
*не было ўжо нікога, хто мог бы пратэставаць.*

Марцін Німёлер (з нямецкай)

## *ТЫСЯЧА І АДНА НОЧ*

Калі нацыкі збівалі камунякаў,
я пасмейваўся ды вершыкі калякаў.

Калі гопнікі бадаліся з мянтамі,
я гатовы быў – арбітрам на татамі.

Вертухая вертухай звальняе з працы –
шкода, мала! Трэба з рэштай разабрацца!

Атрымаўшы ад путаны, бомж заные –
уздыхну: хай разбіраюцца, п'ян*ы*я.

А паб'юць постмадэрністу акуляры –
сам на новыя пазычу два даляры.

Падаю руку трансгендару ў трамваі.
Я эмпатык. Маё сэрца спачувае.

Утвару фемінітыў ад слова "ромы",
пагляджу сто тысяч сайтаў пра пагромы.

Мы – не выспы. Усё ў свеце нас датычна.
Я гатовы падтрымаць. Тэарэтычна.

Да майго пагрому тысяча начэй.
Толькі ночы прамінаюць усё хутчэй.

## МАГІЯ

Свет спадзяецца на збаўцу, чакаючы цуду.
Верыць у магію лічбаў і магію вуду.
Мы ж практыкуем, у іншыя бздуры не верачы,
магію пераследу і магію велічы.

Правіла раз. Запішы, завучы і не вякай:
нам горш за ўсіх, але нашай віны ў тым ніякай.
Помні да вечка труны, аніякай віны,
мы ні пры чым, вінаваты заўсёды яны.

Тыя, хто верыць у ведзьму, шамана, гадалку,
суперчароўную палку і мегакрычалку,
вераць у Яхвэ і Буду, Каран і Рыгведу.
Мы ж толькі ў магію велічы і пераследу.

Правіла два: пераследуем веліч чужую.
Хто не такі – зацкую, загрызу, укрыжую!
Не ўратавацца ад помсты бамжу і буржую,
афракітайцу (пра меншасці ўжо й не кажу я).

Хтось на палётах варожыць і страўніку птушкі,
верыць у веліч дзядоў і магутнасць фрэндстужкі...
А ці зраўнаюцца ёгі, друіды, аўгуры
з магіяй ваенкаматаў і пракуратуры?

Ёсць яшчэ секта, якая з аслінай упартасці
верыць у чорную магію непаўнавартасці.
“Гэтая вера і льва давядзе да магілы”, –
я ім кажу, адчуваючы цёмны бок сілы.
Праўда, пасля здагадаўся, іх тролячы й цвелячы,
гэта ў іх іншая назва для магіі велічы.

Ёсць графамагіі волаты, ёсць клептамагі.
Стосы паперы на літр чарнільнай адвагі.
Шклянку вады падасі – начароўваюць буры.
Кожны рэдактар – такі, што не трэба цэнзуры.

Правіла тры (прызнаюць наймудрэйшыя гуру).
Наш рытуал нават лепшы за акупунктуру.
Возьмеш іголку і тыкай у фотачку дзядзі –
будзе здаровы, шчаслівы і вечна пры ўладзе.

Так і шыхтуемся ў велічнай пятай калоне.
Вучым турыстаў гісторыі на стадыёне.
Хочаш – і вас навучу (неўзабаве прыеду)
магіі велічы й магіі пераследу?

## ДРЫГВА

Слухайце казку, апошнюю казку.
Ў раі, дзе з мілым шалаш,
душы збірае ў трафейную каску
бог партызанаў Талаш.
Скроні ў цярновай кароне.
Сэрца нясе на далоні.
Левыя круцяць пальцам ля скроні.
Правыя б’юць у далоні.

Дзе кулямётны аддзел адраджэння
гнёзды бароніць свае,
мёртвых хавае ў левай кішэні,
з правай – жывых дастае.
Вочы ў тумане і дыме
блытаюць мёртвых з жывымі.
Вораг – жанацік, то б’е халастымі.
Па халастым – баявымі.

Ён адплывае з выдраю ў вырай.
Ён запрашае ў адрыў,
будзячы ўсіх жураўлінаю лірай,
хто вачаняты закрыў.
Ходзіць, не ведае стомы.
Вогнішча паліць святое.
Грукае ў сэрцы, пытаецца: “Хто мы?”
І не пытаецца: “Хто я?”

## ХОР

Ён мальцам на спевы бегаў штодня,
ды ўночы было цікавей,
калі на падворку спярша цішыня,
а потым пяяў салавей.

Яму падпявала вярба ля ракі
і конік фальшывіў між траў...
А потым бяда. Салаўя на шматкі
суседскі кот разадраў.

І хлопцаў душылі слёзы і гнеў,
а ён ім: “Птушку шкада,
ды гляньце, ён тыдзень нічога не еў,
давайце накормім ката”.

Бо ў іхнім двары шмат было прыбышоў,
суседзяў было – цэлы свет,
і ўсім было добра, пакуль не пайшоў
вайной на суседа сусед.

І ўсім было кепска, ды скончыўся бой –
і хтось запяяў салаўём:
“Вось вораг, што прагнуў забіць нас з табой, –
давай мы яго заб’ём!”

І ўсіх паяднаў справядлівы парыў,
і помста біла хвастом...
А ён ім: “Вораг наш дом разбурыў,
давайце збудуем дом”.

Казаў ім: “Калі не любіць цэлы свет,
не зможаш любіць і свой двор...”
Жыў доўга, ды неяк на досвітку дзед
пакрочыў у рай, бо памёр.

“Ты шмат памыляўся, – сказалі яму, –
ды ўсё-такі жыў, як след.
Ты варты, пакінуўшы цела-турму,
пяяць з намі Госпаду, дзед!”

А ён: “Я для спеваў занадта стары,
бо сёння на досвітку ўмёр.
Ваш хор салодка фальшывіць, сябры, –
давайце скасуем хор”.

## СПАЧАТКУ

Абуджаешся ў поце. (Жахлівыя сны!)
Вечарэе, бо хтось на абед з’еў твой ранак.
Па вушах увесь час гэтак білі званы,
што нябітых у кухні паменела шклянак.

У пачуццях разруха, у думках бардак,
не палохае пекла і рай не цікавіць...
Ды бярэш пыласос і ўвіхаешся так,
быццам нешта ў жыцці яшчэ можна паправіць.

## ЕЎРАПЕЕЦ

Фартуна – цётка сляпая,
з ёй важна не быць дубінай...
Раптам дарогу мужык заступае.
Рукі трымае за спінай.

Фікса. Фінгал. Татуха.
Сіні ўвесь, як тапелец.
Шнар ад вуха да вуха.
Пытае: *"Ты европеец?"*

Справа ідзе да ночы.
Дзядзька глядзіць у вочы.

Стаю, разгублены ўшчэнт.
Што там за спінай – прэнт?
Фінка? Букецік кветак?
Святое Пісьмо для дзетак?

Ляпнеш не тое – і нож,
схібіш у стылі – і куля.
Сказаць яму: "Анягож!"
ці ўсё-такі лепш: "А хулі!"?

А ён глядзіць на мяне:
дык еўрапеец ці не?

Я здуру кажу такое:
“Дзядзька, пакінь у спакоі!”.

А ён уздыхае цяжка,
на вуснах нямы папрок.
Рукамі развёў незнарок:
у правай – гарэлкі пляшка,
у левай руцэ – агурок.

Пахітаў галавой:
“Я ж думаў, ты свой...”.

Сыходзіць сумна і горда,
абраза і смага пячэ.
Жыхар еўрапейскага горада,
шукае дваіх яшчэ.

## 328

*Беларускія кнігі распаўсюджваюцца, як марыхуана.*

Марыя Мартысевіч

Ён плакаў на судзе: “Мая віна,
што верыў музе, той яшчэ гарэзе.
Я выдаў томік вершаў, а яна
падкінула ў яго пяць грам паэзіі”.

Здзіўляўся адвакат: “За што ў турму
бяскрыўднага па сутнасці мужчынку?
Ці хоць бы тэрмін скараціць яму –
да трох гадоў
у творчым адпачынку.

Спадарства, разбярыцеся, як след.
Яго “тавар” жыўцом з бібліятэкі.
Для нашага грамадства як паэт
падсудны не ўяўляе небяспекі”.

А пракурор: “Віны не прызнае,
бо вынайшаў паэзію такую,
без водару і смаку. На яе
сабака на мяжы не рэагуе.

Пакуе ў супервокладкі й вязе
атрутную смалу распусных кветак
у школы, дзе катуюць па чарзе
беларусіцы дзетак, нашых дзетак!

А з ім жа два саюзы і ПЭН-цэнтр!
Іх рынкі збыту ў мафіёзных світах:
збіраюць графаманаў на канцэрт
і не пускаюць нас, таленавітых!

Злачынцу патрабую – да васьмі,
за класікі збаёданае зерне!
А ты, пісака, інструмент вазьмі
ў турэмнай перакладчыцкай майстэрні!"

Паэзія трапляе ў пераплёт.
Ад ейнага прызыву не адкосім.
Адлік пайшоў: "Тры, два, адзін, палёт".
А ў цэнтры кіравання: "Тры, два, восем".

## (НЕ)РАССТРАЛЯНАЯ ПАЭЗІЯ

Байнэт і сучліт ходзяць ходырам,
ласкава прашу ў наш вулей!
Тут фота з Кляшторным Тодарам
запосціў сам Таўбін Юлій.

Усе – прыстойная публіка,
ні звадак табе, ні сварак.
Старонку Майсея Кульбака
расшарвае Ізі Харык.

Направа клікнеш – “Узвышша”,
налева клік – “Маладняк”.
Таўбін па-руску напіша –
не дыскрымінуюць ніяк...

Не тое, каб любіш плакаць,
ды штось разам з вершам цячэ,
і кожнага хочаш залайкаць,
каб аўтар пісаў яшчэ.

+

Не разбіраўся ў палітыцы.
Проста страляў у патыліцы.

## ЧЫГУНКА

Твар праваднiцы – цаглiнаю.
Рэйкi, платформы i шпалы.
З радыё кавер з Калiнаю
льецца на словы Купалы.

Двое балбочуць да ранiцы,
тэму смакуюць люб*у*ю.
П'юць, хоць не вельмi i п'янiцы.
Бо дыялог патрабуе.

Пляшкi ўзвышаюцца вежамi.
Тосты дадумайце самi.
Раптам – пра песенькi з вершамi,
бо "Песняры" з "Верасамi".

"Сыну за гэтых нябожчыкаў
тройку паставiлi ў чвэрцi.
Кажуць, палова даносчыкаў
i расстраляных тры чвэрцi".

"Лепей шэсць сотак з гародчыкам,
чым гэты клан дармаедаў".
"Не, ёсць пра хлопчыка з лётчыкам.
Кажуць, Гагарын iх ведаў".

Слухаюць зоркі з вагонамі:
“Ясна, паэт афігенны!
Толькі бяда з эпігонамі.
Страх? Радыяцыя? Гены?”

Цемра з кашмарамі-марамі
дыхае ў ноч перагарам.
Шэпчуцца к*а*ты з ахвярамі
ў сумнай даліне над ярам.

Песня на штось намякае нам,
суха заходзіць і чэрства...
Вып’ем за Авэля з Каінам
горкай атруты братэрства.

## *ПРАЛЬНЯ*

Б. недалюбліваў горад, бо ў горадзе людзі.
Грошы, пагоны, часам зладзейская кепка.
Б. папярэджваў горад, што кепска будзе.
Горад не слухаў, а потым зрабілася кепска.

Б. падумаў, што зробіць той горад пральняй,
толькі яшчэ вагаўся, як чысціць правільней:
гідка мець справу з бруднай чужой бялізнай,
ды праблема з бялізнай стала вялізнай.

Горад сябруе, а потым здрадзіць знянацку.
Прызнаецца ў каханні, выходзіць трэш.
Піша данос. Даглядае хворага бацьку.
Чорны ці белы, адразу й не разбярэш.

Іншыя колеры ёсць. Не менш ад сямі.
Цяжка з такой бялізнай, то бок з людзьмі.
Як іх мыць? Паасобку ці ўсіх суздром?
Барабан запусціўся. Горад вырашыў: гром.

Б. усё добра абдумаў і выбраў рэжым
сярэдняй забруджанасці, мыццё далікатнае.
Горад крычыць “бяжым”, а куды “бяжым”?
Ногі ўжо ватныя, думкі неадэкватныя.

Барабану з вадой няпроста спыніцца,
на панэлі адсутная кнопка “стоп”.
Аптыміст пераконвае: звыклая навальніца.
Песіміст фармулюе: тыповы патоп.

Толькі ў Б. на панэлі сцэнар відзён:
сорак хвілін. Горад вырашыў: сорак дзён.
Горад выпаў з машыны, прамоклы ўшчэнт.
Аптыміст даказваў, што хэпі-энд...

Горад сохне на ветры. Чакае золку.
Удыхае азон. Сустракае святло.
Зранку над пральняй Б. запаліў вясёлку –
знакам, што сегрэгацыі не было.

# 5. ШКОЛА ТРАВЫ

*Мой родны край, Літва! Ты нам нібы здароўе,*
*Што вучымся цаніць і згадваем з любоўю,*
*Як страцім. Зноў цябе ў дзівосным харастве*
*Прыгадваю й пішу, бо смутак сэрца рве.*

*О, дзева чыстая, што ў чанстахоўскім храме*
*Ратуеш свет ад зла і ў Вострай свеціш Браме,*
*Што мой Наваградак бароніш з верным людам!*
*Ты мне маленькаму жыццё вярнула цудам.*
*(Як маці плакала, святой Тваёй апекі*
*Благаючы! І ўзняў я мёртвыя павекі,*
*Гатовы пехатой шукаць Твайго парога,*
*Ўратаваны сын – удзячны Сыну Бога.)*
*Зрабі нам цуд, усіх вярнуўшы да айчыны.*
*А сёння ў родны кут нясі мае ўспаміны, –*
*Туды, дзе высяцца пагоркі між барамі,*
*Дзе Нёман у лугах, нібы ў зялёнай раме,*
*Дзе збожжа колеры каштоўныя сплятае,*
*Бо жыта – срэбнае, пшаніца – залатая,*
*Дзе грэчка – нібы снег, свірэпка – як з бурштыну,*
*Дзявочаю красой румяніць канюшыну,*
*Ды зрэдку на мяжы, каб сэрца лад узрушыў,*
*Зялёнай вартаю – ціхуткі шэпт ігрушаў.*

Адам Міцкевіч. Уступ да паэмы “Пан Тадэвуш”
(з польскай)

* * *

ці помніш ты волю б.? тапаляў пух на раёне
турэцкія швэдры ў торбах і ціхія шэпты “ваў”
бо той, хто дзесяць гадоў таму запальваў на стадыёне
тамсама палены спірт купляў або прадаваў

ці помніш філфак і першыя перакуры
паэзію бруднай красы, дацэнтаў нянавісць і жах
як помнікі несусветнай літаратуры
у рытм не траплялі, але цяклі па вушах

як папялушка з крыжыкам на карэце
да поўначы не паспела і ўсё, адбой
хто выжыў у дзвюх, загінуў на зорнай трэцяй
фаўст-патрон з ім, перцам, закрыўшы сабой

як доктар казаў: “прызыўнік, здароўе = айчына
маючы, не шануеш, а страціш – капец
не забывай, мужчына кахае вачыма
зрок беражы, не чытай у войску, хлапец”

як кожнага дня рабілася ўсё храновей
як самагубцы ў вырай ляцелі з мастоў
і толькі воля казала: “дабранач, панове
можна жыць далей” – і так дваццаць пяць гадоў

як дасылаў паштоўкі з амерыкай ды ізраілем
хто пяяў “мне краёў чужых” і “не кінем цябе”
а той, хто кахаў вачыма, руіны чытае брайлем
ці помніш ты волю б.
ці помніш ты волю б.

* * *

Яна вяртаецца дамоў
па Завадскім і Першамайскім.
Яна выкладчыца трох моў,
якімі гаварыць няма з кім.

Яна расла за кальцавой,
працуе побач з Камароўкай.
Яна сябруе з галавой,
сваёй апошняю сяброўкай.

Ёй сняцца леташнія сны
з нікому не дасланым мэйлам.
Яна выдатніца вайны
неверагоднага з памерлым.

Яна зрабіла, што магла,
і атрымала, што павінна.
Яна заклала "Кветкі зла"
паштоўкаю "Квітней, краіна!"

Яна схавала шыла ў смех,
але не ўтоіш стыль штылета.
І выпадае першы снег
ёй у апошнюю ноч лета.

Ёй кон у белым паліто
карціны будучыні спаміць,
каб не забыла ні пра што.
...Таму і скардзіцца на памяць.

## ВУЧЫСЯ ПЛАВАЦЬ

Калі заганяюць спаць у цёмны пакой,
бо ты нарадзіўся ў кашулі, але не такой,
ці ўвогуле нарадзіўся абуты ў лапаць, –
малы, захоўвай спакой і вучыся плаваць.

Калі адарвалі сяброўцы пластмасавую руку
ці той ідыёт дастае ў дзіцячым садку,
калі на носе гузак і на сэрцы горыч, –
малая, вучыся плаваць, басейн поруч.

Хай твой анёл-ратавальнік вечна прастуджаны,
твае акіяны і моры – багны і лужыны,
і толькі дажджы па сто дзён на год не халявяць, –
калі ўжо мокнуць, то з сэнсам: вучыся плаваць.

Калі два разы – бязрыб'е і пяць – бясхлебіца,
налева пойдзеш – халера, направа – трасца,
хлопча, вучыся плаваць, яно спатрэбіцца,
дзеўка, вучыся плаваць, яно прыдасца.

Хай будзе, што будзе, а ты рабі, што павінны,
на першай дарожцы ў Палацы воднага спорту.
Ніхто не пашырыць межаў тваёй краіны,
але й не патоне ў зоне твайго камфорту.

Бо ратавацьмеш ад колаў смаўжоў і бамжоў,
кніжкі ўлюбёныя ад скавышоў і дажджоў,

рыбу ад чайкі, пясчаныя замкі ад хвалі,
каб ратавальнікі іншае ратавалі.

І хай не дастанеш са дна затанулы звон
і нават не прыйдзецца мячык цягнуць з фантана,
але, плывучы ля берага, трапіш як добры фон
на шлюбнае фота рыбачкі і капітана.

Калі ж падымуцца хвалі ад лютага шквалу,
усім вам, лічы, яшчэ болей пашанцавала,
бо капітан з дзікім крыкам: “Куды палез ты!” –
выратуе цябе на вачах у нявесты!

## МОВА

Кожная мова напоўнена ўласным сэнсам.
Кажуць, што па-нямецку добра займацца сэксам:
вывучыць нескладана – руляць галосныя гукі.
Па-беларуску любяць матчыны рукі.

Па-французску клінкамі звіняць і плятуць інтрыгі,
мараканцы й алжырцы пішуць рэпчыкі й кнігі,
цёплыя круасаны трушчыць буржуазія.
Па-беларуску скандуюць: “Беларусь – не Расія”.

У рускай мовы гарачка ад белай гарэліцы.
Добры паэт не засіліцца, дык застрэліцца.
Чорныя пісталеты помняць Бальшыя Карэтныя.
Па-беларуску друкуюць вершы паліткарэктныя.

Украінскаю мовай гучыць салаўіны пошчак,
з гэтым пошчакам добра працуецца ў Польшчах,
покуль палякі ў Брытаніі топчуць кеды.
Па-беларуску працуюць адны дармаеды.

Помняць белага брата хіндзі і суахілі.
Па-габрэйску каменьчык моліцца на магіле.
Па-ангельску маўчанне доўжыцца з Чарлі Чаплінам.
Па-беларуску над Віліяй гучна вяшчаюць чаплі нам.

Вы даўно зразумелі, *што* я маю наўвеце:
беларуская мова – найпрыгажэйшая ў свеце.

## ***ПАТРЫЯТЫЗМ***

Калі сонца ўстае за Кармой,
родны кут апяваю мой.

Калі пахне чаромха з Веткі,
да радзімы лячу ў адведкі.

А не маючы іншых опцый,
зноў пішу ёй, рыфмуючы ў Стоўбцы.

Валацуга, які гадамі
мог бы ў Чэрвені жыць пад Мастамі,

разбіваю боты і ногі
аб яе Старыя Дарогі.

Кожны з нас пацыфіст найшчыры:
нехта ў Грозным жыве, мы ў Міры.

Ды над кожнай яе кутузкай
пад Бярозай плачам Картузскай.

Пішам гімны па-старасвецку,
сэрца б’ецца, як птушачка ў Клецку.

Верш зашпільваем рыфмай-з*а*пінкай,
не задушаны ейнай Жабінкай.

Хай пакутаваць зранку ад смагі нам,
захапляемся ейным Брагінам.

Шанавальнікі родных смакаў,
выпіваем пад Пціч і Ракаў.

Пад тапонім кожны гамонім,
яна ставіцца з Панямоннем.

Скажаш слова любай краіне,
а яна – прамову Задзвінне,

аж гудзе на гарышчы і ў склепе:
слова – Добруш, маўчанне – Лепель.

## ШКОЛА ТРАВЫ

Увесну трава – пяе,
зялёны прыбой аж да ганка.
Пакуль ты косіш яе –
за спінай расце, партызанка.

Яе знішчаюць – жыве:
навюткая, не старая.
Схаваны ў такой траве
таксама не памірае.

Усё пакасіў як след,
ды зноў па пояс увесну.
І піша ў слупок паэт,
рыфмуючы з “уваскрэсну”.

Хто косы трымаў, усе
стралялі па той мішэні –
і цётухна пры касе
прасекла пра ўваскрашэнне.

Усё, што ў свеце люблю,
знаёмае з гэтай школкай:
дажджом упасці ў зямлю
і ў неба ўзысці вясёлкай.

Дарэчы, у нас дажджы,
касіць – дарэмныя мары.
Ты кажаш: “Лепш пастрыжы
газон, што вырас на твары”.

* * *

Сем уваскрэсенняў таму
у велікодным Нотр-Даме
паверыў слову аднаму
й шукаеш іншае гадамі.

А потым схопіш наўздагад
яго, што ў храме велікодным
сем уваскрэсенняў назад
не рыфмавалася з ніводным.

* * *

Хрыстос прызямліўся ў Берасці,
на самай мяжы эРБэ.
Расце трава – і табе расці,
і цуды рабіць – табе.

Хрыстос прызямліўся ў Горадні,
не кажучы аб Гародні,
і ўсе жывыя – з яго радні,
а мёртвы – яшчэ несмяротней.

Хрыстос прызямліўся ў Смаргоні,
Нясвіжы й Старых Дарогах,
і бэз – прадвеснік ягоны,
і глог – у яго прароках.

Хрыстос прызямліўся ў Зэльве,
у Слоніме і Залессі –
і ксёндз запільвае сэлфі,
і бацюшка ў кадр залезе.

Хрыстос прызямліўся ў Гомелі,
у Ракаве ды Івянцы –
і ўсё, што людзі багомілі,
злятае, як дзьмухаўцы.

І, верачы праўдзе й байкам,
нібы пілот з карабля,
глядзіш, як святочным яйкам
па небе плыве зямля.

## САМАЛЁТ

зямля памяншалася й неба расло
анёл гравітацыі лёг на крыло

дыспетчарка ноч адпусціла эскорт
і лішнія страхі баластам за борт

бяссонніца ў форме прынесла напой
і ўсе каго крыўдзіў сядаюць з табой

у кожным кілішку пацыфік віны
і слухае тосты дэтэктар маны

пакуль паясы вяжуць час па руках
і дзіўныя песні трымаю ў зубах

на спінцы фатэля кіно пра жыццё
пытае лацінай “куды леціцё?”

а потым курносая ў стылі хэнтай
гуляючы з коскай “пакуль палятай

мы вольныя птушкі і кратаў няма
ты сам сабе вязень прысуд і турма

спявай да каляднае зоркі ўваччу
а коскі расставіць пасля прылячу

глядзі як зіхцяць у касмічным віры
ўсе-яблыкі-ўсе-залатыя-шары

як ззяе прапелер каронай святла
глядзі, над зямлёй зорка сонца ўзышла”

* * *

Надышло трыццаць першага снежня.
Новы год адзначаем? Канешне.

У кватэры – далёка да раю,
дзікі вэрхал і лямант адчайны.
Тата енчыць: “Дэдлайны! Дэдлайны!”
Мама ў крык: “Прыбірай!”
Прыбіраю.

– Смецце выкіні!
– Слухаю, бос!
Потым тата бярэ пыласос.
Уключыў – і ўсяго за хвілінку
заганяе ката на ялінку.

У сацсетках – калядныя вершыкі.
У суседзяў – разборкі і спеў.
Усё менш да канца трыццаць першага.
Усё болей, чаго не паспеў.

Сеў пісаць – не грузілася пошта.
Бег па хлеб – не ўлічыў галалёду.
Не паспеў! А куды? І навошта?
Адкладзём да наступнага году.

А пад вечар збіраюцца ўсе.
Хтосьці кнігу (стол-кнігу) нясе.
Хтосьці ставіць у цэнтр стала
пляшку міра, бутэльку святла.

За акном – навагодні салют.
На экране – то цар, то вярблюд.
Мандарынкі. Карыца. Халва.
Прывітанне ад духу Раства...

Хтось за вокнамі горла дзярэ.
Хтосьці сані спыніў на дварэ.
Новы ранак прылёг на зямлю.
Спіце, родныя. Я вас люблю.

## ЛІСТ

Сяду за стол цвярозым,
стану пісаць лісты:
Санта з Дзедам Марозам,
Зюзя й Мікола Святы!
Хай ні дачку, ні жонку
цуд ваш не абміне –
прыйдзе знутры і звонку,
і крыху – ад мяне.

Дайце пісьменніку свята
з кніжкаю і казой,
цыніку – вершы без мату
з радасцю і слязой.
Тэлевізару – сорам,
хай гэту ноч адпачне.
Неба – калядным зорам.
...І чагось для мяне.

Хай усміхнецца ўдача
ворагам і сябрам,
кожны – смяецца й плача,
храмаў хапае і крам.
Хлопца – кожнай дзяўчыне,
а не захоча – дык не,
незалежнасць – краіне.
...І чагось для мяне.

Зюзя з Дзедам Марозам,
Санта з Міколам Святым!
Трохі сэрца і розуму
дайце гэтым і тым.
Хай ні далёкіх, ні блізкіх
больш не заб'юць на вайне.
...Ёлку ў святочных блісках.
...І чагось для мяне.

*Аўтар выказвае шчырую падзяку*
*Крысціне Бандурынай, Вераніцы Дзядок,*
*Ігару Крэбсу і Віталю Рыжкову*
*за каштоўныя парады і дапамогу*
*ў працы над кнігай.*

*Дзякуй рэдактару і вярстальніку*
*за разуменне і цярплівасць, калі аўтар*
*уносіў усё новыя змены*
*ва ўжо гатовую кніжку.*

# Змест

## 1. Дэталі



## 2. Ноч музеяў

## 3. Скрыпка



## 4. Дрыгва



## 5. Школа травы

**<u>Сцісла пра аўтара:</u>**

Андрэй Хадановіч, паэт, перакладчык, эсэіст, выкладчык літаратуры. Нарадзіўся ў 1973 г. у Менску. Аўтар дзесяці зборнікаў "дарослай" паэзіі, а тасама адной кнігі вершаў для дзяцей. Удзельнік шматлікіх паэтычных фестываляў у многіх краінах, вершы перакладаліся на пятнаццаць моваў і выходзілі асобнымі кнігамі ва Украіне, Польшчы, Швецыі. Перакладае паэзію з французскай, ангельскай, польскай, расійскай, украінскай моваў. Лаўрэат прэміяў "Кніга году" (2015), імя Карласа Шэрмана (2017), "Крышталь Віленіцы" (2008), "Залаты апостраф" (2007), "Залатая літара" (2004, 2013), Польскага ПЭН-клубу (2015). Выкладае замежную (французскую) літаратуру ў БДУ. Вядзе заняткі ў "Перакладчыцкай Майстэрні" і Школе пісьменніцтва пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Сябра Беларускага ПЭН-цэнтра і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Менску.

Фота на першай старонцы вокладкі —
Сільвіі Бернацкай, на апошняй старонцы —
Аліны Дадаевай.

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў».
Выпуск 27

**Андрэй Хадановіч**

**Школа травы**
*Кніга вершаў*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Уладзь Лянкевіч*
Мастак *Генадзь Мацур*
Вёрстка *Хведара Сумкіна*
Карэктар *Віка Трэнас*

Падпісана да друку 12.12.2019. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 4,41.
Ул.-выд. арк. 2,4. Дадатковы наклад 150 ас. Зак. 448.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.